# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 1 (1599) ГОД XXXII БЕЛАСТОК 4 СТУДЗЕНЯ 1987 г. ЦАНА 10 зл.



Спявае квартэт „Звон".

## У ТАСЦЯХ У НАС „ЗВОН"

Сустрэліся мы за рэдакцыйным сталом — Багдан Пура, Міраслаў Аляксеюк і Аляксандр Філіманюк, хлопцы з квартэту „Звон". Чацвёрты з іх, Адам Пура, быць з намі не змог — якраз цяпер служыць у войску.

Квартэт гэты сваім мілагучным спевам, шырокай гамай галасоў ад найвышэйшых нот для тэнара да найніжэйшых для баса, а галоўнае, незвычайнай арыгінальнасцю, зладжанасцю, сілай і адначасова далікатнасцю гучання мужчынскіх галасоў запалоніў слухачоў адразу, з першай заспяванай песні.

Большасць з нас упершыню пачула іх з тэлевізара, у час Фестывалю савецкай песні ў Зялёнай Гары ў 1985 годзе. Здзіўленне і адначасова радасць — гэта ж нашыя хлопцы, беластачане, заваявалі бронзавы самавар!

Мінула з таго часу два гады, і „Звон" стаў шырока вядомы ў нашым асяроддзі. Ведаюць яго не толькі ў Беластоку, але і ў Бельску, і ў Гайнаўцы...

А пачалося ўсё вельмі звычайна. Неяк позняй восенню 1984 года ў кватэры Пураў у Беластоку сабраліся сябры. Сядзелі, размаўлялі, папівалі чаёк. Потым ціхенька зацягнулі песню. Адну, другую... Выйшла нядрэнна. Самім спадабалася.

— Гэтак можна было б і ў конкурсе заспяваць, — кінуў думку Міраслаў.

— Чаму не? — падтрымаў яго Багдан. — Якраз аб'явілі аб конкурсе савецкай песні. Запрашаюць усіх ахвотных.

Падумалі, памеркавалі і вырашылі спрабаваць. Крышку саспяваўшыся, хлопцы з'явіліся ў кансультацыйным пункце Ваяводскага праўлення ТППР. Сустрэў іх там інструктар Ежы Томзік. Хлопцы заспявалі яму некалькі народных песень. Ежы Томзік выбраў дзве — „Камара" і „Ой ты, ночанька..."

І пачалася марудная праца па адпрацоўванню кожнага элемен-

(Працяг на стар. 4)

## З ЛОДЗІ — У ВЕТКУ

У канцы кастрычніка па запрашэнню гістарычнай секцыі БГКТ у Беластоку выступіў з дакладам аб традыцыях старавераў на польскіх землях вучоны і даследчык Лодзінскага універсітэта доктар Яўген Іванец. З Беласточчынай яго звязваюць сяброўскія кантакты і сімпатыя да беларусаў. 20 год ён ужо з'яўляецца членам Беластоцкага навуковага таварыства і займаецца комплексным даследаваннем гісторыі рускіх стараабрадцаў, якія пражываюць у Польшчы, а таксама ўзаемаўплывамі славянскіх сумежных культур — польскай, беларускай, украінскай і рускай.

У красавіку гэтага года доктар Я. Іванец, будучы стажорам Ленінградскага універсітэта, пабываў на Беларусі, у раённым гарадку Ветка, які знаходзіцца на рацэ Сож, у Гомельскай вобласці.

Горад Ветка даўно ўжо быў у кругу навуковых даследаванняў Я. Іванца. Гэтаму гарадку і яго жыхарам вучоны прысвяціў раздзел сваёй працы, выдадзенай у 1977 годзе Беластоцкім навуковым таварыствам, пад загалоўкам „З гісторыі стараабрадцаў на польскіх землях у XVII-XX стагоддзях". Кніжка гэтая выклікала зацікаўленне ў нашай краіне і ў СССР. Некалькі гадоў назад, у час Дзён культуры Беларусі ў Польшчы, д-р Іванец сустрэўся з дэлегацыяй вучоных і пісьменнікаў Беларусі. Тады ж ён праз Адама Мальдзіса перадаў для Веткаўскага музея народнай творчасці сваю кнігу.

Кніга зацікавіла беларускага вучонага, а асабліва дырэктара музея, які выказаў ахвоту сустрэцца з аўтарам гэтай кнігі.

Пабываць у Ветцы Яўген Іванец змог толькі ў гэтым годзе. „У нашым музеі, — пісаў на імя рэктара універсітэта дырэктар веткаўскага музея Фёдар Рыгоравіч Шкляроў, — ёсць шмат экспанатаў па гісторыі і культуры, а таксама добры збор кніг з 15, 16, і 17 стагоддзяў. Асабісты кантакт з чалавекам, які займаецца гісторыяй рассялення рускіх, быў бы карысны для абодвух бакоў".

І доктар Іванец паехаў у Ветку.

— Вы першы раз былі на Беларусі. Якія ўражанні зрабіў на вас гарадок на Сожы? — пытаюся ў вучонага.

(Працяг на стар. 6)



Віншуем усіх з Калядою, Калядонькай!
Здароўя і шчасця ў хаце,
Прыбытку ў гаспадарцы,
усялякага багацця —
зычыць НІВА

### НЕ АЧАРСЦВЕЙ НА БОЛЬ, ДУША

Калядны снег. Зіма. Трывога.
Ноч шчадраца. Ноч варажбы.
Зноў мерзнуць цені за парогам.
І мне павек не разлюбіць:
Ні матчын дом за паваротам,
Ні раздарожаны бальшак.
Ні ўчора. Ні цяпер. Ні потым
Не ачарсцвей на боль, душа!

**Валянціна Аколава**




## БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ЦАРКВЕ

На старонках „Нівы“ час ад часу паяўляюцца выказванні чытачоў і дзеячоў БГКТ наконт патрэбы ўвядзення беларускай мовы ў цэрквах, што знаходзяцца ў беларускім асяроддзі. На жаль, гэтая справа надалей астаецца нявырашанай. Думаю, гэта перш-наперш таму, што няма адпаведняга націску з боку саміх прыхаджан. Але я не буду аналізаваць цяперашні стан. Мне хочацца звярнуць увагу на гістарычнасць гэтай справы, бо яна не паявілася (як думаюць некаторыя чытачы) у апошнія гады. Яе карэнні сягаюць глыбока ў мінуўшчыну.

Той, хто калі-небудзь гартаў сшыткі „Литовских епархиальных ведомостей“, ведае, што ўжо ў 60-тыя гады XIX ст. самія праваслаўныя свяшчэннікі выказвалі публічна погляд, што пропаведзь для „западно-русского народа“ павінна гаварыцца на „белорусском простонародном наречии“. Праўда, тадышнія часы і сітуацыя ў многім адрозніваліся ад сённяшняй. І мэта ўвядзення беларускай мовы ў царкоўны абрад не была зусім чыстая (некаторыя лічылі яе першым этапам на шляху да поўнай русіфікацыі). Але шмат што са сказанага свяшчэннікамі больш як сто гадоў таму назад, можна смела аднесці да сённяшняга дня і сённяшняй сітуацыі.

Мяне асабліва зацікавіў артыкул чарнаўчыцкага свяшчэнніка Сцяпана Пашкевіча, змешчаны ў „Литовских епархиальных ведомостях“ № 20, ад 31 кастрычніка 1863 г. Аўтар трапіў у 1855 г. па распараджэнню епархіяльнага начальства ў мясцовасць Чарнаўчыцы Брэсцкага ўезда. Царкву застаў вельмі бедную. Прыхаджане праваслаўныя былі змешаны з прыхаджанамі рымакаталіцкага веравызнання, у якіх быў прыгожы мураваны касцёл. У царкву на набажэнствы прыходзіла не болей 8-25 чалавек. Айцом Пашкевічам авалодаў смутак. Пачаткова прабаваў ён растлумачыць халодныя адносіны парафіян да свае веры няўмелай дзейнасцю свайго папярэдніка, чалавека ўжо даволі старога, бо 70-гадовага. Але калі прыгледзеўся сітуацыі, прыйшоў да вываду, што праваслаўных прыхаджан прыцягваюць у касцёл (бо яны туды хадзілі), апрача аргана, пропаведзі на польскай мове, якую праваслаўныя беларусы ведалі лепш, чым рускую (эфект Люблінскай і Брэсцкай уніяў). Тады а. Пашкевіч, ведаючы мясцовы беларускі дыялект, пачаў падчас кожнага набажэнства тлумачыць евангелле і гаварыць пропаведзі на мове, зразумелай для сваіх прыхаджан. Яны пачаткова вельмі здзівіліся, упершыню слухаючы ў сваім храме гэтак блізкую свайму сэрцу родную мову. С. Пашкевіч прыкмеціў, што яны на самым пачатку не звярталі ўвагу на змест пропаведзі, а на словы і гукі, несумненна прыемныя для іх вушэй. Праз нейкі час праваслаўныя жыхары Чарнаўчыц сталі больш рэдка хадзіць у кас-

(Працяг на стар. 6)

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Сямяцічы. Вуліца Вясёлая. Мал. Уладзіслава Петрука.*

## СПРАВЫ БЕЛАРУСАЎ БЕЛАСТОКА

У Беластоку дзейнічае адзін з найбольшых і самых актыўных аддзелаў БГКТ. У ім паспяхова працуюць харавы і тэатральны калектывы, якія часта выступаюць на розных імпрэзах БГКТ, кожны год удзельнічаюць у аглядах і займаюць у іх добрыя месцы. Аддзел наладжвае ўрачыстасці з нагоды гадавін, спатканні з цікавымі людзьмі, аўтарскія сустрэчы „белавежцаў“, вечарыны, традыцыйнымі сталі гучныя навагоднія балі. У апошнім часе аддзел арганізаваў „Ноч Купалы“ на рацэ Нарве, праводзіў у беластоцкім амфітэатры разам з гарадской радай ПРОН беларускія фэстыны, актыўна ўдзельнічаў у Свяце беларускай культуры ў Беластоку. У аддзеле добра наладжана супрацоўніцтва з многімі арганізацыямі і ўстановамі горада. І ўсё гэта ў цяжкіх варунках, бо другі год ідзе рамонт будынка БГКТ і ўсе заняткі і імпрэзы адбываюцца ў Доме настаўніка і за гэта бэгэкатоўцы сардэчна ўдзячны Беластоцкаму аддзелу Саюза польскіх настаўнікаў.

7 снежня мінулага года пад старшынствам Валянціны Ласкевіч праходзіў сход членаў БГКТ гарадскога аддзела. У ім прынялі ўдзел сакратар гарадскога камітэта ПАРП Уладзіслаў Кляпацкі і намеснік старшыні гарадской рады ПРОН Зянон Шэлёнг, прадстаўнікі кіраўніцтва ГП БГКТ і „Нівы“.

На пачатку сходу былі ўручаны ўзнагароды: Залатая ганаровая адзнака ТППР для кіраўніка калектыву „Звон“ Багдана Пуры і Ганаровая грамата БГКТ для вялікай групы актывістаў з Беластока.

Сакратар ГП Віталі Луба прадставіў актуальны стан і дзейнасць нашага Таварыства.

Намеснік старшыні аддзела Мікалай Гайдук выступіў са справаздачна-праграмным дакладам, у якім прааналізаваў дагэтуляшнюю працу аддзела і накрэсліў напрамкі далейшай дзейнасці.

Шмат увагі ў дакладзе было прысвечана маладому пакаленню. „Моладзь удзельнічае ва ўсіх нашых мерапрыемствах, — гаварылася ў дакладзе. — Але гэта не значыць, што дастаткова. Мы лічым, што нашага дзеяння, нашай працы з моладдзю замала, што праца не такая, якой павінна быць. Надалей астаецца актуальным і першапланавым заданнем, як мага шырэй разгортваць працу сярод працуючай студэнцкай і ліцэйскай моладзі горада, каб у яе асяроддзі ўвесь час будзіць і актывізаваць большую патрэбу дзеяння на ніве роднага слова і беларускай культуры, каб паўстаў маладзёжны вакальна-музычны калектыў, маладзёжны гурток краязнаўцаў, ці маладзёжны гурток гісторыкаў, фалькларыстаў і іншыя. Нашаму аддзелу пад сілу прыйсці з дзейснай дапамогай моладзі ў яе зацікаўленнях і запатрабаваннях. Але адначасова просім нашых маладых сяброў, каб яны былі больш ініцыятыўнымі, актыўнымі, напорыстымі не толькі ў патрабаваннях, але перш за ўсё ў сваёй дзейнасці, гатоўнасці ўдзельнічаць у нашай бэгэкатоўскай працы, бо нам вельмі патрэбны маладыя галасы ў наш хор, маладыя любіцелі сцэнічнага мастацтва ў тэатральны калектыў, музыканты дзеля сістэматычнай працы ў музычным калектыве і ўсе іншыя, хто толькі мае

(Працяг на стар. 7)

## У ТАСЦЯХ У НАС „ЗВОН“

(Працяг са стар. 1)

ту песні, кожнага голасу. Найцяжэй давялося барытону — Аляксандру Філіманюку. Але вытрымалі, вышліфавалі. Паехалі на эліміацыі ў Інаўроцлаў.

З прыемнасцю ўспамінаюць хлопцы той час. Там вучыліся спяваць з аркестрам, спаборнічалі з іншымі групамі за выезд у Зялёную Гару, але атмасфера была цудоўная — увесь горад радасна прыняў удзельнікаў і святкаваў разам з імі свята песні і маладосці, і ўдзень, і ўначы вуліцы Інаўроцлава поўніліся песнямі, маладым задорам.

Такой атмасферы не было ўжо ў Зялёнай Гары. Там панаваў амаль настрой спартыўнай барацьбы: удасца ці не ўдасца? Нервы былі напружаны да апошняга. Горла сціскаў страх.

— Шанцы былі малыя. — расказвае Багдан. — Вакол нас былі сапраўдныя прафесіяналы, хоць маладыя, але пераважна з поўнай музычнай адукацыяй. Спявалі з вядомым у Польшчы аркестрам Польскага Радыё. Зала была велізарная, мікрафоны, моцнае святло. Пачынаць песню мне трэба было аднаму, хлопцы ўключаліся пазней, а за імі аркестр. Цяжар адказнасці не даваў мне выціснуць з сябе голасу — ці ўдасца добра пачаць? Пачаў дрыжачым голасам, і сам не пачуў сябе. Не было адслуху. Але хлопцы ўключыліся як трэба. Супакоіўся толькі тады, калі зладжана ўступіў аркестр, значыць, добра трапіў у танацыю — усё ў парадку!

Так прыйшоў бронзавы самавар. Гэта здзівіла саміх хлопцаў.

— Відаць, — мяркуе яшчэ сёння Аляксандр, — мы спадабаліся журы сваёй іншасцю, арыгінальнасцю, зладжаным спевам чатырох розных мужчынскіх галасоў. Было гэта для нас прыемнай нечаканасцю.

— Зусім інакш мы адчувалі сябе на раённым аглядзе беларускай песні, які адбыўся вясной 1986 года, — дзеліцца ўражаннямі Мірaслаў. — Канцэрт адбываўся ў клубе на Пяста. Зала не надта вялікая. Сцены з мяккай абіўкай не давалі адгалоску. Мы спявалі без мікрафонаў. Але найбольш мяне ўразіла публіка. Зала была біткам набіта людзьмі Людзі стаялі і ў холе, на лесвіцах і нават на вуліцы. Яны хацелі нас слухаць. Многія падспеўвалі, іншыя выціралі хустачкамі вочы. У такой зале хочацца спяваць.

— У такой жа сардэчнай, амаль сямейнай атмасферы спявалі мы і на цэнтральным аглядзе беларускай песні, і на канцэрце 30-годдзя БГКТ і „Нівы“, — уключаецца Аляксандр. — Тут нас не хацелі адпусціць са сцэны. Зала „Форум“ была вялікая, але і тут людзі стаялі нават ва ўсіх праходах і ў дзвярах. Мы бачылі сардэчныя, ажыўленыя твары людзей, і ад гэтага спявалася лёгка, радасна.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Вучні другога і трэцяга класа ў школы ў Залуках разам са сваёй настаўніцай Ленай Добаш на сустрэчы з „Зоркай".
Фота Я. Чэрнякевіч.

## У ЗАЛУКАХ

У гэтым навучальным годзе дзеці з вёскі Залукі, што ў Гарадоцкай гміне, пачалі вывучаць беларускую мову. „Зорка" наведала іх, калі яны яшчэ пазнавалі толькі літары. Але гэта не перашкаджала таму, што ўсе 15 чалавек любяць спяваць беларускія песні, ведаюць іх шмат, і „Зорку" таксама павіталі песняй „Два дубочкі". Спявалі ўсе, і дзяўчаткі і хлопчыкі, і то на два галасы, а месцамі нават у дуэце спявалі Раман Варановіч і Крысь Рагач.

Потым другакласнікі і трэцякласнікі закідалі мяне вершыкамі з беларускай чытанкі. Кася Рагач дэкламавала верш пра асенні букет. (Дарэчы, дзеці ўручылі „Зорцы" прыгожы каляровы букет засушаных кветак. Букет складаўся з ружоваа-зялёна-белых колераў і прыгадваў цеплыню лета і сонца). Аня Грыцук дэкламавала вершык пра коціка.

Кася Рагач вельмі добрая вучаніца. Яна даўно ўжо ўмее чытаць і пісаць па-беларуску, а песень ведае столькі, што заўсёды спявае разам, калі перадаюць беларускія перадачы па радыё.

Дзеці ведалі, што „Зорка" да іх прыедзе, таму вельмі чакалі. Падрыхтавалі нават пачастунак. А Аня Грыцук з другога класа ўласнымі рукамі, самастойна, спякла пірог з чорнымі ягадамі. „Зорцы" вельмі цяжка было паверыць, што такая маленькая Аня ўмее пячы такія смачныя пірагі. Але ўсе дзеці і настаўніца Лена Добаш пацвердзілі, што Аня яшчэ і не такое цеста ўмее спячы.

Наогул другакласнікі і трэцякласнікі шмат чаго ўжо ўмеюць. Дзяўчаткі вышываюць, вяжуць шалікі і карункі.

А потым дзеці вырашылі праверыць, ці „Зорка" ўмее адгадваць загадкі, а не толькі задаваць дзецям.

Трэцякласніца Малгося Паплаўская задала такую загадку:

Я заўсёды вам служу,
І рашаю, і пішу.
Усё, што хочаш я змайструю,
На паперы намалюю.
Дык чаму, скажыце мне,
Хваляць вас, а не мяне?

„Зорка" адгадала. А ці ведаюць ужо адгадку чытачы? Напішыце.

У школу ў Залукі ходзяць дзеці з навакольных вёсак — з Радуніна і Пясчанік. Каб у школе было чыста і прыемна, пастараліся бацькі: адмалявалі класы, школьны калідор уласнымі сіламі, і школа выглядае вельмі прыемна.

Цяпер дзеці жывуць падрыхтоўкай да школьнай ёлкі. Вучацца спяваць, танцаваць, бо прыйдзе ж Дзед Мароз і запытаецца, што яны ўмеюць. Жадаю ўсім дзецям вясёлага свята, добрых вялікіх падарункаў і многа шчасця ў Новым Годзе.

Яніна Чэрнякевіч

Яраслаў Пархута

## ЛЕСАВІЧОК

### Казка

Калі сядае сонца і на зямлю апускаецца ноч, з Ласінага логу выходзіць вунь такенькі Лесавічок з вунь такенькаю торбаю за плячыма. У той торбе заўсёды поўна зорак, а наверсе яшчэ і маладзік паблісквае.

Ідзе Лесавічок прасекаю, ідзе, і, каб не было сумна, пачынае сам сабе загадкі загадваць. Загадае адну — і тут жа адгадае. А потым бярэцца за другую, за трэцюю...

Так было і на гэты раз. Толькі выбраўся Лесавічок на прасеку — загадаў такую загадку:

З выгляду — сястра вавёрцы,
А жыве ў глыбокай норцы.

Загадаў ён тут загадку і пачаў думаць-гадаць, як яе адгадаць. Нарэшце даўмеўся, што да чаго, і ад радасці ажно ўскрыкнуў:

— Гэта лісіца!

Весялей стала Лесавічку, і ён загадаў сабе яшчэ адну загадку:

Шэры ды кірпаты
І на здзіў зіркаты,
Ноччу спаць не любіць —
Крыкам птушак будзіць.

Зноў пачаў думаць-гадаць, як загадку адгадаць, ды над прасекаю з'явілася нейкае страшыдла, залапатала крыламі, зарагатала, а потым ухапіла торбу з зоркамі і паперла на асіну.

Лесавічок аслупянеў ажно:

— Хіба ж так жартуюць?

А страшыдла (гэта быў Пугач, пра якога ён загадку склаў) толькі рагоча:

— Ух-гу-гу! Ух-гу-гу!..

Сеў Лесавічок на пень і ад крыўды заплакаў:

— Што я лясному народу скажу? Як ён без зорак і месяца будзе?

— Абыдзецца! — закрычаў Пугач з асіны. — Прывыкне! Папемкам лепш!..

Яшчэ мацней заплакаў Лесавічок. Але на шчасце тою прасекаю вяртаўся з абходу ляснік, даведаўся, у чым справа, абурыўся:

—Пугач, дурная галава, аддавай торбу!

(Працяг на стар. 10)




Год за годам — карагодам,
І ўжо сёння з Новым годам
Я сардэчна, ад душы
Вас віншую, малышы!
А чаго ж я вам жадаю?
Зараз, зараз прыгадаю...
Каб бадзёрымі былі вы,
Каб разумнымі раслі вы,
Каб прынёс вам Новы год
Многа радасных прыгод
І здароўя ў вашы хаты, —
Каб былі здаровы самі,
Каб былі здаровы мамы,
Каб былі здаровы таты,
Каб не ведалі напасці,
І каб я за вас быў рад.
З Новым годам!
З новым шчасцем!
Вас віншуе

дзед Кандрат.
КАНДРАТ КРАПІВА

ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

## МОЙ ТЭЛЕВІЗАР

Тэлевізар мой адменны:
Аніякіх правадоў,
Ані кнопак, ні антэны!
Толькі казкі для сяброў.

Пад аблокамі, пад ветрам
На балконе ён стаіць.
На світанні непрыкметна
Казка першая ляціць.

І сініц яна збірае
На блакітны мой экран.
Корміць, поіць, саграваe
У люты сівер і ў туман.

За маім акном — птушыны,
Чараўнічы, шумны грай:
Тут спявачкі, балерыны...
І не грай, а цэлы край!

Свой аркестрык ёсць умелы —
Чуе той, хто мае слых.
Сіні, жоўты, чорны, белы —
Казка з колераў жывых.

Як сініцы падрастаюць, —
Наглядай, сусед, са мной!
Родны край не пакідаюць,
Ім утульна і зімой.

Я ад першых дзён марозных
Да вясны іх дагляджаў.
Кніжак смешных і сур'ёзных
Поўны звязак прачытаў.



